наша
# свабода
№49 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

15 ЖНІЎНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Добраахвотна ў хаўрус з рэжымам

**Кампанія выбараў у палату прадстаўнікоў набірае абароты. На сённяшні дзень зарэгістравана каля 400 групаў падтрымкі кандыдатаў, якія прэтэндуюць на 110 месцаў. Конкурс, як бачым, немалы – болей за тры чалавекі на месца. Многім хочацца трапіць у запаветную залу і прывінціць на грудзі дэпутацкі значок. Без развагаў кінуліся ў выбарчы вір і цяперашнія «палатачнікі», і некаторыя з тых, хто апошнія некалькі гадоў гуляў у апазіцыю. Маскі скінутыя. На парадак дня пастаўленая задача: нягледзячы ні на што, прабіцца да ўлады. Хоць пра ўладу тут казаць не прыходзіцца, бо сапраўдныя яе рычагі манапалізаваныя.**

Улады абвясцілі выбары на сваіх умовах, не зважаючы ні на міжнародную супольнасць, ні на апазіцыю ў краіне. Славутыя чатыры пытанні, што гарантавалі адносную дэмакратычнасць і сумленнасць выбараў і вакол якіх амаль год круціліся палітычныя жыццё краіны, — не вырашаныя. Як вынік – гэтыя выбары не будуць прызнаныя нідзе ў цывілізаваным свеце. Такі ж лёс чакае і будучую «палатку». Больш таго, людзям, што ў яе трапяць, прыйдзецца быць саўдзельнікамі ўсіх справаў, якія натворыць улада.

Да моманту абвяшчэння выбарчай кампаніі антылукашэнкаўская апазіцыя Беларусі падышла з вельмі моцнымі пазіцыямі. Партыі, якія ставяць сабе ледзьве не супрацьлеглыя мэты, правыя – Беларускі Народны Фронт, Аб'яднаная грамадзянская партыя і левыя БСДП (Народная Грамада), Партыя камуністаў Беларусі знайшлі пагадненне па цэлым шэрагу пытанняў, выступалі адзіным фронтам. Толькі ў ліпені былі праведзеныя Кангрэс дэмакратычных сілаў, Усебеларускі з'езд за незалежнасць, на якіх было адназначна вырашана: Канстытуцыя ў Беларусі адна – 1994 года, парламенцкія выбары ў цяперашніх умовах – фарс, які патрэбны Лукашэнку для прызнання канстытуцыйнасці цяперашняга рэжыму.

Аднак вельмі прыгожым падаўся фанцік ад выбарчай цукеркі некаторым былым апазіцыйным палітыкам. Яны не зважаюць на тое, што «палата прадстаўнікоў» не мае ніякіх уладных паўнамоцтваў, што апазіцыя ў гэтым «парламенце» не будзе мець ніякага ўплыву нават на большасць у палаце – не кажучы пра тое, каб уплываць на ўсю краіну. Некаторыя будучыя кандыдаты, як, напрыклад, Міхаіл Чыгір, спадзяюцца, што выбары абароняць іх ад судовага пераследу, аднак большасць, відавочна, мае матэрыяльныя разлікі для ўдзелу ў выбарах.

Яны кажуць прыгожыя словы, робяць лагічныя высновы – але за што ж яны змагаліся зусім нядаўна? За што сядзеў свае суткі ў турмах Валерый Шчукін? Ці ён хоча застацца і дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, і быць у палаце прадстаўнікоў? За што агітаваў на мітынгах старшыня БСДП(НГ) Мікола Статкевіч? Ці верыць ён, што можа паўплываць на палату прадстаўнікоў, выбары ў якую апякае «вертыкаль»? Справа, мусіць, у тым, што, як сказаў былы старшыня выбарчай камісіі і прыстойны чалавек Аляксандр Абрамовіч, пераходзячы на службу да Лукашэнкі: «Надакучыла быць галодным».

Тыя палітыкі, якія спрабавалі гуляць у апазіцыю, тусуючыся на мітынгах, розных «круглых сталах», дыялогах і г.д., а цяпер навыперадкі рынуліся на выбары, кепска ўсведамляюць наступствы сваіх дзеянняў. Канешне, ніхто не можа і не захоча прымушаць гэтакіх дзеячаў зрабіць іншы выбар. Другая справа, што дарогі назад ужо няма. Для многіх з гэтых чатырох соцень яе не стане ўжо 15 кастрычніка, а то і раней, калі іх не зарэгіструюць ці здымуць «з дыстанцыі», ці проста не абяруць у выніку дзеяння «самага дэмакратычнага выбарчага закона ў свеце».



Мільёны беларусаў, якія не наважваліся адкрыта падтрымліваць апазіцыю, выходзіць на мітынгі, – ужо даўно стогнуць ад немагчымасці далейшага жыцця пад прыгонам цяперашніх уладаў, і яны не падтрымаюць тых, хто здраджвае іх інтарэсам з дробных асабістых разлікаў. Яны жадаюць змяніць сітуацыю да лепшага. Што гэтыя людзі могуць думаць пра тых «лідэраў», хто яшчэ месяц-два таму з трыбуны крычаў пра нелегітымнасць рэжыму Лукашэнкі – а цяпер спяшаецца патрапіць у ягоную «палатку»? З другога боку, добра, што народ убачыць паймення тых, хто хутка перафарбаваўся адпаведна густу і жаданню ўладаў.

Высокія словы пра пашырэнне магчымасці рабіць дабро для народа, седзячы ў парламенцкай зале, не здолеюць падмануць людзей, якія з гэтай залы ніколі не чулі нават адзінага слова пратэсту, і ўсе заканадаўчыя акты, што прымаліся там, толькі пагаршалі сітуацыю. Усё будзе заглушана радасным голасам А.Лукашэнкі, які абвесціць, што прысутнасць сярод дэпутатаў некалькіх былых апазіцыянераў, што дзеля сваёй вядомасці заклікалі людзей на мітынгі пратэсту супраць нелегітымных органаў улады, неаспрэчнае сведчанне росквіту беларускай дэмакратыі, яе адпаведнасці найлепшым сусветным стандартам, доказ для прызнання рэжыму сусветнай супольнасцю.

Пачатак выбарчай кампаніі не ўнёс у шэрагі апазіцыі ніякага расколу. Проста адпала патрэба ўгаворваць і ўзгадняць свае дзеянні з ненадзейнымі паплечнікамі. Мэты ў апазіцыі засталіся тыя самыя: Незалежнасць, Дэмакратыя. Выбары, якія прапануе ўлада, — не выбары, а фарс. Супрацьстаяць яму – справа кожнага сумленнага чалавека. Кожны павінен зрабіць свой выбар. ■

## НАВІНЫ

■ **Экс-прэм'ер Сяргей Лінг прызначаны Пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.** Указам А.Лукашэнкі яму нададзены дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла. Намеснік міністра замежных справаў Уладзімір Герасімовіч паехаў амбасадарам у Нідэрланды, а кіраўнік службы Дзяржаўнага пратакола і намеснік міністра замежных справаў Міхаіл Хвастоў стаў прэзідэнцкім памочнікам.

■ **У Баранцавым моры ў крытычным стане аказалася ўчора падводная лодка расійскага ваенна-марскога флоту «Курск».** Падчас вучэнняў лодка ў сувязі з непаладкамі была вымушаная легчы на дно на глыбіню 100 метраў. Жыццё усяго экіпажа лодкі – а гэта 130 чалавек – аказалася пад рэальнай пагрозай. Ваенныя сцвярджаюць, што ядзернай зброі на борце падлодкі няма. Выратавальныя службы прыкладаюць усе намаганні, каб падняць лодку наверх. Калі нумар здаваўся ў друк, экіпаж «Курска» яшчэ заставаўся пад вадой. Што з гэтымі людзьмі будзе далей, невядома.

■ **У Лос-Анджэлесе адкрыўся з'езд Дэмакратычнай партыі ЗША. Ён працягнецца чатыры дні і завершыцца зацверджаннем Альберта Гора і Джозэфа Лібермана кандыдатамі ад партыі на прэзідэнцкіх выбарах.** У з'ездзе возьмуць удзел больш за 35 тысяч дэлегатаў. Апошнія апытанні сведчаць, што па рэйтынгу дэмакрат Альберт Гор адстае ад рэспубліканца Джорджа Буша ўсяго на 4% і таксама мае шанцы стаць новым прэзідэнтам.

■ **Лідэр Карэйскай народна-дэмакратычнай рэспублікі Кім Чэн Ір заявіў, што пажартаваў над прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным.** Нагадаем, што ў ліпені У.Пуцін наведаў з візітам Паўночную Карэю і нібыта ўгаварыў Кім Чэн Іра прыпыніць ваеннае развіццё краіны, якая мае мільённую армію. Гэта падавалася ледзь не як прарыў расійскай дыпламатыі. Цяпер жа лідэр КНДР паведаміў, што ягоныя заявы пра прыпыненне ваеннага развіцця «не варта ўспрымаць сур'ёзна». Ён таксама прызнаў, што Паўночная Карэя прадае свае ракеты Ірану і Сірыі. Па словах Кім Чэн Іра, з-за недахопу эканамічных рэсурсаў краіна вымушаная развіваць гэтую галіну ваеннай вытворчасці, каб зарабіць неабходную валюту.

## Чакаць нядоўга – чатыры гады

*Яніна ВЯРЫГА*

На мінулым тыдні старшыня мінскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны А.Анісім на сустрэчы з начальнікам упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама М.Ціцянковым і начальнікам аддзела агульнай сярэдняй адукацыі сп. А.Фраловай абмяркоўвалі пытанне пра адкрыццё беларускамоўнай гімназіі ў цэнтры сталіцы. М.Ціцянкоў паведаміў, што рэальная дата адкрыцця такой гімназіі – праз чатыры гады на базе 19-й або 23-й СШ (раён плошчы Якуба Коласа). Тут улічваецца, што сёння гімназіі пачынаюць працаваць цалкам адасоблена ад пачатковай школы. Аднак, падмурак будучай нацыянальнай гімназіі закладаецца сёння ў пачатковых беларускамоўных класах. Бацькі сённяшніх першакласнікаў атрымліваюць магчымасць даць сваім дзецям добрую беларускамоўную адукацыю. Калі, зразумела, Мінгарвыканкам стрымае свае абяцанні. ■

## Офіс кампаніі «Белавія» згарэў у Ізраілі

*Наталля КУЛАГІНА*

Ноччу 11 жніўня ў Тэль-Авіве ў выніку пажару практычна поўнасцю знішчаны офіс прадстаўніцтва беларускай дзяржаўнай кампаніі «Белавія».

Як паведамілі афіцыйныя крыніцы, пажар адбыўся «ў выніку дзеянняў аднаго з габрэйскіх артадоксаў». Відавочцы, у прыватнасці, сцвярджаюць, што невядомы чалавек кінуў бутэльку з запальнай сумессю ў акно магазіна «Амстэрдам». Магазін займае першы паверх будынка, у якім размешчаныя офісы прадстаўніцтва «Белавія» і некаторых іншых кампаніяў. Агонь з магазіна перакінуўся на ўвесь будынак. Той жа ноччу ў Тэль-Авіве аналагічным спосабам былі спаленыя яшчэ 4 магазіны. Вечарам 11 жніўня па Беларускім тэлебачанні выступіў генеральны дырэктар «Белавія» Анатоль Гусараў. Каменціруючы інцыдэнт у Тэль-Авіве, ён заявіў: «Тое, што адбылося, нас вельмі занепакоіла, таму што з-за дзеянняў некаторых асобаў нанесены ўрон авіякампаніі. Тое, што адбылося, не пацягне за сабой ніякіх збояў у палётах».■

БелаПАН

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

995

## Наша СВАБОДА – гэта Ваша СВАБОДА!

**Паважаныя чытачы!**

**Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА працягвае падпіску на II паўгоддзе 2000 г.**

**Вы можаце падпісацца ў любы час, газета будзе прыходзіць да Вас з першага дня наступнага месяца.**

**Падрабязнасці пра ўмовы падпіскі на *стар. 6***

# Ад жонкі Дзмітрыя Завадскага ўзята падпіска аб захаванні тайны

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

10 жніўня жонка зніклага без вестак апаратара ОРТ Святлана Завадская была выкліканая ў транспартную пракуратуру, дзе з яе была ўзятая падпіска аб захаванні тайны следства. Магчыма, гэтае запозненае дзеянне (прайшло больш за месяц з моманту знікнення Дзмітрыя і пачатку допытаў па гэтай справе) звязанае з нежаданнем кіраўніцтва следчай групы прадаставіць грамадскасці нават мізэрную інфармацыю аб ходзе вышуку.

Напярэдадні Святлана Завадская паведаміла журналістам аб усхваляваўшым яе візіце супрацоўнікаў следчай групы, якія 7 жніўня прасілі ў блізкіх Дзмітрыя прадставіць узор яговых валасоў і медыцынскую даведку аб групе крыві. Натуральна, і жонка, і маці Завадскага былі напужаныя тым, ці не знойдзенае цела Дзмітрыя? 8 жніўня карэспандэнт БелаПАН звярнуўся з гэтым пытаннем да транспартнага пракурора Рэспублікі Беларусь Мікалая Каралюка. Ён заявіў, што нічога страшнага не адбылося, ідуць звычайныя следчыя дзеянні, вывучаецца асоба Завадскага. Паводле словаў кіраўніка транспартнай пракуратуры, ён не можа зрабіць вывады, якія б насцярожвалі, і ўпэўнены ў тым, што Завадскі будзе знойдзены. А ўжо 10 жніўня Святлана Завадская была выкліканая да следчага, і з яе ўзята падпіска аб захаванні тайны следства.

У свaім інтэрв'ю Мікалай Каралюк адмовіўся каментіраваць нейкія версіі, заявіўшы, што не збіраецца інфармаваць «супрацьлеглы бок» аб ходзе расследавання. Нядаўна журналістам стала вядома, што ў дзень выкрадання Завадскага — 7 ліпеня — даволі працяглы час каля яго дома і ў пад'ездзе знаходзіліся невядомыя людзі. Непадалёк ад дома стаяў аўтамабіль «фальксваген», на якім падазроныя грамадзяне паехалі практычна аднachасова з Завадскім. Следчыя апыталі ўсіх жыхароў дома. Быў складзены фотаробат аднаго з тых, хто знаходзіўся каля дома. Аднак па незразумелых прычынах гэты партрэт таксама не быў прадстаўлены грамадскасці. На просьбу карэспандэнта БелаПАН пракаменціраваць гэтую сітуацыю транспартны пракурор літаральна адрэзаў: «Я гэта пакіну без каментарыяў. Я не магу раскрываць даныя следства. У бліжэйшы час пра ўсё даведаецеся. Мы збярэм журналістаў і ўсё раскажам». Аднак пракурор не адмаўляў існаванне фотавыявы аднаго з падазроных і прakаменціраваў гэта даволі дзіўным чынам: «Ці мала людзей па вуліцах ходзіць». На прапанову змясціць партрэт у газетах Мікалай Каралюк адказаў катэгарычнай адмовай: «Нам гэта не патрэбна». ■

БелаПАН

# Усё сказана еўрапейскай місіі

**Рыгор БУЯН**

12 жніўня завяршыўся трохдзённы візіт у Мінск дэлегацыі БДІПЧ — Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ, у якую ўваходзілі кіраўнік аддзела выбараў Храйар Баліан, эксперт аддзела Джэсі Пілгрым і эксперт па агульных пытаннях Эндру Брус . 9 жніўня пасланцы БДІПЧ ціха прыляцелі, правялі шэраг сустрэчаў з апазіцыяй і ўрадам і гэтак жа незаўважна пакінулі Мінск. Насуперак устаноўленай традыцыі, па якой усе еўрапейскія місіі па выніках візітаў давалі прэс-канферэнцыі, дэлегацыя БДІПЧ з журналістамі не сустракалася. Але пра што гаварыць, калі ўсё сказана раней?..

*Перад місіяй БДІПЧ, па вялікім рахунку, стаяла адна задача:* «сфатаграфаваць» юрыдычна-прававую і фактычную сітуацыю праз прызму чатырох умоваў АБСЕ і на падставе атрыманай «карцінкі» вырашыць, ці накіроўваць наглядальнікаў на восеньскія парламенцкія выбары, запланаваныя на 15 кастрычніка.

Улады прымалі еўрапейцаў на надзвычай нізкім узроўні: самы высокапастаўлены чыноўнік, з кім сустракалася дэлегацыя, — старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. Тым самым афіцыйны Мінск засведчыў поўнае ігнараванне пазіцыі міжнароднай супольнасці.

Дарэчы, выбарчы аддзел з'яўляецца асноўнай структурай не толькі БДІПЧ; усе праблемы, якія хоць як закранаюць выбарчы працэс, праходзяць менавіта праз аддзел выбараў. І той факт, што цяперашнюю місію ўзначаліў непасрэдна кіраўнік аддзела Храйар Баліан, сведчыць пра важнасць і ўзровень місіі. Менавіта паводле рашэння аддзела па выбарах БДІПЧ Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе не прызнала вынікі рэферэндуму 1996 года. ■

**КРЫМІНАЛ**

# Дарослыя аб'ядалі дзяцей

**Ася КУНІЦКАЯ**

Шэраг сур'ёзных парушэнняў у арганізацыі харчавання школьнікаў у дзіцячых аздараўленчых лагерах Гродзенскага, Іўеўскага, Лідскага, Ашмянскага і Шчучынскага раёнаў выяўлены Камітэтам дзяржаўнага кантролю па Гродзенскай вобласці. Асноўныя з іх — парушэнне рэцэптуры прыгатавання ежы, недастатковае ўкладанне прадуктаў пры прыгатаванні страваў, выкарыстанне пратэрмінаваных прадуктаў, фармальны кантроль медработнікаў за арганізацыяй харчавання дзяцей і іншыя.

Напрыклад, у аздараўленчым лагеры «Касмадром» Шчучынскага раёна за два дні дзецям было недададзена прадуктаў на 15,3 тысячы рублёў, а на складзе лагера «Дружба» Ашмянскага раёна падчас праверкі былі выяўленыя лішкі свініны, курыных кумпячкоў, масла, рыбы, какавы, грэцкіх крупаў, пячэння, вафель, каваvага напою і сухіх вяршкоў на суму звыш за 78 тысяч рублёў.

Па выніках праверкі 26 чалавек прыцягнутыя да адміністрацыйнай і 8 – да дысцыплінарнай адказнасці. ■

БелаПАН

# Четыре года работы в безопасной Беларуси

**Турецкая Республика была первой страной, которая признала независимость Республики Беларусь и установила в 1992 году с ней дипломатические отношения и первой открыла посольство в Минске. С тех пор отношения между двумя странами переживали разные периоды. Тем не менее, в отличие от многих других европейских стран, Турции удалось сохранить с Беларусью стабильно хорошие отношения. Своими мыслями по этому поводу любезно согласился поделиться советник посольства Турции в Минске, заместитель посла господин Хакан Кыванч.**



Фото Ул. ШПАТАКА

**Досье:** Хакан Кыванч – родился 6 апреля 1963 года в Анкаре. После окончания престижного колледжа учился в Ближневосточном техническом университете. Защитил диплом по политическим наукам и международным отношениям. С 1985 года работает в МИД Турции. В 1989-1992 годах работал третьим, а затем вторым секретарем турецкого посольства в Белграде. Также некоторое время исполнял обязанности главы генерального консульства в г. Скопле (Македония). Следующей ступенью карьеры стала должность, на протяжении двух лет, второго секретаря, заместителя посла в посольстве в Джакарте. До 1996 года работал в центральном аппарате МИД в должности первого секретаря. С 1996 по сентябрь 2000 года — сначала первый секретарь, затем советник, а также на протяжении всего времени — заместитель посла посольства Турции в Беларуси. Владеет английским, французским и русским языками.

***— Вы стали одним из немногих дипломатов, которым пришлось проработать в Минске целых 4 года. Как для Вас изменилась Беларусь за эти годы?***

— Беларусь очень интересная и важная европейская страна с богатым потенциалом. Я могу сказать, что за эти годы в ней произошли позитивные изменения. Пусть медленно, но позитивные. В экономической сфере, из-за состава населения и структуры экономической системы особенно тяжело осуществлять радикальные реформы. Подобные причины можно привести и по другим сферам. Были также и непозитивные события, но я не хочу упоминать их сейчас.

***— А что же в качестве позитива Вы бы отметили?***

— Беларусь все же сумела избежать многих последствий российского кризиса августа 1998 года, и экономический рост продолжается. Конечно, это зависело от политики, проводившейся в тот период правительством Беларуси. Кроме того, развитые людские ресурсы и квалифицированная рабочая сила являются богатством страны. Страна нуждается в больших инфраструктурных инвестициях. Пожалуй, она остается самой безопасной для граждан страной в СНГ и Европе. Разгула криминала в Беларуси нет. Это важное преимущество.

***— Что для Вас стало памятным днем, событием за время работы здесь?***

— Какое-то одно событие выделить не просто. По роду своей работы я наблюдал многие интересные и исторические события. И что касается Беларуси, то я бы вспомнил то, что я приехал сюда, когда состоялся референдум 1996 года, оказавший в последующие годы большое влияние на отношение к ней в мире. Как дипломат не могу не вспомнить кризис из-за Дроздов. И конечно все процессы, связанные с подписанием Договора о союзе Беларуси с Россией.

***— По-моему, Вы проявляете излишнюю скромность. Перечисляя для Вас памятные события, Вы упустили такое, как сопровождение главы белорусского государства на Стамбульском саммите стран ОБСЕ. Неужели у Вас не осталось от этого впечатлений?***

— Действительно, для меня это было большой честью и очень ответственным моментом. Скажу откровенно, работать в дни саммита под руководством президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко и с высокими членами его делегации было приятно и комфортно. Хочу отметить такую черту его характера, как уверенность в себе. Его талант и способность государственного деятеля ясно и четко ставить вопросы и задачи позволяли сравнительно легко находить решения.

***— Что за последние 4 года удалось и что не удалось решить в области двусторонних отношений?***

— Необходимо отметить, что в политической области у Турции с Беларусью установились очень хорошие и крепкие отношения, основанные на взаимном уважении и понимании. Создана законодательная база, которая является условием для дальнейшего развития всесторонних отношений между двумя странами. Главное — надо работать над выполнением совместно подписанных документов.

***— С сожалением должен констатировать, что, в отличие от политической, в экономической сфере нам не удалось достичь подобных успехов.***

— Почему? Ведь буквально в январе этого года в Анкаре состоялось заседание комиссии по торгово-экономическому сотрудничеству, в которой белорусскую сторону возглавлял вице-премьер Урал Латыпов...

***— Надеюсь, что его визит придаст необходимый импульс для развития двусторонних отношений в торгово-экономических областях и поднимет их уровень до уровня политических отношений. Ведь у нас столько потенциалов и взаимовыгодных совместных проектов! Некоторые отрасли промышленности наших стран дополняют друг друга.***

— А главной причиной такого положения в двусторонних торгово-экономических отношениях я бы назвал отсутствие информации о возможностях и способностях друг друга.

***— Так посольства обеих стран и должны помогать в обеспечении информации. Не так ли?***

— Мы работаем. Но вопросы должны решаться не только на межгосударственном уровне, но и на активном взаимодействии структур частного сектора. Считается, что на сегодняшний день нет достаточных гарантий для частного капитала в Беларуси. Как известно, бизнес не любит большого и неожиданного риска.

***— Существуют ли между Турцией и Беларусью сферы отношений, которые бы можно было назвать специфическими, особыми?***

— В наших двусторонних отношениях существуют гармония, стабильность и высокая степень взаимопонимания.

***— Известно, что между Турцией и Грецией, которые союзники по НАТО, существуют проблемы в двусторонних отношениях. Основная из них — кипрская, которую пытаются решить под эгидой ООН. Могла ли бы Беларусь, как одна из стран, основавших ООН, как-то способствовать разрешению кипрской проблемы?***

— В наших отношениях с Грецией существуют некоторые вопросы. Продвижение по пути их решений идет успешно. Подтверждением этому, в частности, могут служить встречи премьеров обеих стран на Стамбульском саммите, а также контакты между главами внешнеполитических ведомств Турции и Греции. Что касается кипрской проблемы, то, согласно официальной точке зрения, она не между Анкарой и Афинами, а между Республикой Кипр и Турецкой Республикой Северного Кипра, как двух равноправных и суверенных государств. Равноправие и суверенитет являются *sine qua non* (обязательными условиями) для объединенного государства.

Белорусский народ знает, как это неправильно подвергать одну страну изоляции, одной из причин которой являются неоднозначные критерии. Турецко-белорусские отношения стабильны. Поэтому я уверен, что объективная позиция Беларуси, без сомнения, способствует нахождению справедливого решения мирного сосуществования двух народов острова.

***— Если не секрет, в чем будет заключаться Ваше новое место работы?***

— Конечно, не секрет, 1 сентября в своем новом кабинете в МИД Турции я приступлю к своим новым обязанностям. Я уверен, контакты с моими друзьями в Беларуси продолжатся также как здесь, и поэтому я не прощаюсь, а говорю – до свидания.

***— Спасибо за ответы.*** ■

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**ЮСТЫЦЫЯ**

# Міліцыя пакарала прадпрымальніка за абарону жонкі

**Алег САКАЛОЎ**

Як паведамілі БелаПАН у Беларускім прафсаюзе прадпрымальнікаў, 12 жніўня на мінскім стадыёне «Дынама» супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы член прафсаюза, прадстаўнік Каардынацыйнага савета арганізацыі прадпрымальнікаў Ігар Намочанка. Яго затрымалі ў пакоі міліцыі стадыёна, куды ён прыйшоў падаць скаргу на дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў і забраць дакументы прыватнага прадпрымальніка, канфіскаваныя ў яго напярэдадні.

11 жніўня, на вахах у Ігара Намочанкі, у палатку ягонай жонкі, якая гандлюе на рынку стадыёна «Дынама», зайшлі некалькі маладых людзей у цывільным (потым высветлілася, што яны — супрацоўнікі міліцыі) і, як яму падалося, спрабавалі правесці вобыск. Пры гэтым яны схапілі жонку Намочанкі за рукі. Ён адцягнуў маладых людзей ад жанчыны і затрабаваў тлумачэнняў. У адказ быў выкліканы нарад міліцыі, які і забраў у Ігара Намочанкі дакументы прыватнага прадпрымальніка, дагавор арэнды на гандлёвае месца і квіткі аб аплаце фіксаванай стаўкі падатку. Міліцыянеры сказалі, што вярнуць дакументы ён зможа на наступны дзень.

Удзень 12 жніўня ў пакоі міліцыі сталічнага стадыёна Ігара Намочанку затрымалі і інкрымінавалі яму дробнае хуліганства, а калі ён адмовіўся ісці з супрацоўнікамі міліцыі, — яшчэ і непадпарадкаванне законнаму распараджэнню або патрабаванню работнікаў міліцыі. У выніку прадпрымальнік да 22 гадзінаў знаходзіўся ў гарадскім аддзеле міліцыі Ленінскага РУУС Мінска.

БелаПАН

# Будзь шпіёнам!

**Міхась КАРПОВІЧ**

**Цяжкасць і рамантыка гэтай прафесіі не падаюцца прывабнымі сучаснай ізраільскай моладзі. Ізраільскія спецслужбы не маюць магчымасці папоўніць свае шэрагі новымі кадрамі, і таму вымушаныя ісці на розныя хітрыкі.**

Адзін з такіх хітрыкаў – рэкламныя абвесткі ў сродках масавай інфармацыі. На службу ў «Масад» запрашаюцца, як правіла, асобы ва ўзросце ад 25 да 35 гадоў, з адпаведнай баявой падрыхтоўкай і добрымі ведамі хаця б адной еўрапейскай мовы. Зрэшты, вялікі попыт і на тых, хто размаўляе па-арабску.

У свой час ізраільскі тыднёвік «Алеф» распавёў, як праходзіць адбор на службу ў «Масад». Пасля скрупулёзнай анкетнай праверкі – з указаннем усіх знаёмых жанчынаў і сябровак, стасункаў з роднымі, славацыяў, пераканаюў, звычак і антыпатыяў – будучыя ізраільскія шпіёны і джэймсы бонды трапляюць да графолага і псіхолага. Потым яго выклікаюць на першую практычную праверку. Заданне не вельмі складанае – у групе з некалькіх такіх жа кандыдатаў трэба любым чынам дазнацца пра сапраўдныя імёны адзін аднаго.

Калі гэты этап пройдзены, імёны сталі вядомымі, пачынаюцца больш сур'ёзныя практычныя заняткі. Напрыклад: прайсці на пэўны балкон і стаць побач з гаспадаром кватэры. Або замяніць мембрану ў слухаўцы на стойцы ў гатэльнага клерка. Ці прайсці незаўважаным праз памежны кантроль у аэрапорце. Падчас выканання ўсіх гэтых заданняў існуе рэальная магчымасць патрапіць у лапы пераапранутых паліцэйскіх і апынуцца на допыце, дзе «ворагі» будуць настойліва высвятляць у кандыдата ягонае сапраўднае імя. Тады – правал, трэба шукаць іншую працу.

Істотнай часткай падрыхтоўкі шпіёнаў з'яўляецца веданне замежных моваў. У «Масада» ёсць адмысловыя курсы па вывучэнні англійскай, французскай, арабскай мовы, а таксама фарсі. Некаторых студэнтаў пасылаюць на вучобу за мяжу – у Вялікабрытанію, Францыю і Германію. Там яны вывучаюць мясцовы дыялект, сленг, вучацца мясцоваму ладу жыцця. Тых афіцэраў «Масад», якія не маюць моўных здольнасцяў і вучацца кепска, пасылаюць на вучобу ў замежныя універсітэты – гэта служыць прыкрыццём для іх прафесійнай працы.

Цікава, што ў тэарэтычную частку падрыхтоўкі разведчыкаў – апроч аналізу розных аперацыяў – уваходзіць прагляд старых шпіёнскіх фільмаў. У поўнай адпаведнасці з гэтымі стужкамі, будучых прафесіяналаў навучаюць пальбе ў рэстарацыі, адкідваючыся назад разам з крэслам і страляючы з-пад стала, або – падаючы на «аб'ект» разам з перакуленым сталом і бесперапынна страляючы, пакуль ахвяра не застанецца ляжаць нерухома. Пасля гэтага практыкі рэкамендуюць – для надзейнасці – зрабіць кантрольны стрэл у галаву.

Будучых агентаў навучаюць мастацтву грыма і змены легендаў, а галоўнае – майстэрству выжываць у самых неспрыяльных умовах. Для гэтага кандыдата могуць пакінуць аднаго ў іншай краіне з чужым пашпартам і без грошай. Ад іх патрабуецца вярнуцца ў Ізраіль, не раскрываючы свайго сапраўднага імя. Тыя, хто ў рэшце рэшт прыходзіць па дапамогу ў ізраільскую амбасаду або мясцовую габрэйскую абшчыну, з курсаў адразу адлічваюцца.

Спецыялізацыя ў варожай краіне прадугледжвае вывучэнне самых малых дробязяў штодзённага жыцця, уключаючы імёны мясцовых спартыўных зорак і памер гасцінца таксісту. У варожую краіну курсантаў адпраўляюць праз адну з еўрапейскіх сталіцаў, дзе ў аэрапорце іх спрабуюць прымусіць напісаць сваё сапраўднае імя і арыштоўваюць па ілжывым абвінавачванні ў кантрабандзе. Курсант мусіць трымацца сваёй легенды. За гэтую праверку трэба атрымаць 100 балаў – і не адным меней.

Дзеля чаго такія высілкі? Калі адкінуць убок разважанні пра рамантыку і пра ўласную неабходнасць для справы выратавання Ізраіля, то застаецца някепскі заробак. Штомесяц кіраўнік «Масада» атрымоўвае, калі верыць ізраільскай прэсе, столькі ж, колькі кіраўнік Агульнай службы бяспекі, начальнік Генштаба і генеральны камісар паліцыі – 10.000 долараў штомесяц. Начальнікі аддзелаў зарабляюць столькі ж, колькі старшыя армейскія афіцэры – ад 5 да 7 тысяч долараў. Апроч усіх даброт ў і даплатаў, супрацоўнікі «Масада» могуць выйсці на пенсію ў 45 гадоў (год працы за мяжой залічваецца за паўтара). Дарэчы, халасцякоў за мяжу не пасылаюць – каб у іх не было лішніх спакусаў, а ў «Масада» — лішняга галаўнога болю. ■




# Літва патрабуе мільярды

**Міхась КАРПОВІЧ**

Літва стварыла адмысловую камісію, якая мусіць ацаніць фінансавыя страты гэтай краіны ў выніку анексіі і ўсталявання на 50 гадоў савецкай улады. Прадстаўнікі гэтай камісіі заявілі ў канцы мінулага тыдня, што канчатковая сума стратаў можа сягаць мільярдаў долараў. У яе ўваходзіць эканамічныя страты, экалагічная шкода, нанесеная навакольнаму асяроддзю Літоўскай Рэспублікі, а таксама кампенсацыя дэпартаваным у сталінскія часы літоўцам фізічнай і маральнай шкоды. Усе гэтыя прэтэнзіі могуць быць выстаўленыя Расіі як правапераемніцы СССР.

Канчатковыя высновы камісія можа зрабіць да 1 лістапада, пасля чаго ўрад Літвы мусіць распачаць перамовы з Расіяй. Але наўрад ці Расія пагодзіцца разлічвацца за старыя грахі. Яе прадстаўнікі ўжо цяпер сцвярджаюць, што краіна не нясе ніякай адказнасці за дзеянні Савецкага Саюза, і папярэджваюць, што выстаўленне такіх прэтэнзіяў можа ўскладніць двухбаковыя стасункі. ■

# Знайшлі атамную бомбу

**Ірына СТАРЦАВА**

Ля ўзбярэжжа Грэнланды можа ляжаць нявыбухнуўшая атамная бомба, паведамляе агенцтва *Reuters* са спасылкай на дацкую газету *Jyllands-Posten*. У якасці крыніцаў інфармацыі газета спасылаецца на былых супрацоўнікаў авіябазы Туле, якія змаглі атрымаць доступ да сакрэтных дакументаў.

Паводле дадзеных аўтара артыкула, 21 студзеня 1968 года бамбардзіроўшчык B-52 Ваенна-паветраных сілаў ЗША разбіўся непадалёк ад авіябазы Туле за Палярным кругам. У той час амерыканцы не паведамілі ўладам Даніі, у чыёй юрысдыкцыі знаходзіцца Грэнландыя, што ім удалося знайсці толькі тры бомбы з чатырох, якія знаходзіліся на борце самалёта. Ад чацвёртай бомбы з серыйным нумарам 78252 пошукавая экспедыцыя знайшла толькі парашут. Вынікі пошукаў Злучаныя Штаты захоўвалі ў сакрэце.

Гэтымі днямі ў Грэнландыю прыбудуць амерыканскія афіцыйныя асобы для перамоваў аб выкарыстанні авіябазы Туле ў рамках новага супрацьракетнага шчыта, які плануюць стварыць ЗША. ■



# Прыз – касмічны палёт



**Ірына СТАРЦАВА**

У ЗША ладзіцца новае тэлешоу, галоўны прыз якога – касмічнае падарожжа на расійскую станцыю «Мір». Прадзюсер амерыканскага шоу *Survivor* («Той, хто выжыў») Марк Бернет падпісаў кантракт на здымкі новага цыкла сваіх перадачаў у Зорным гарадку. Пра гэта паведаміў Джэфры Мэнбэр, прэзідэнт галандскай фірмы *MirCorp*, якая займаецца пошукам камерцыйных праектаў для фінансавання арбітальнай станцыі «Мір».

Паводле ідэі М.Бернета, сюжэтам цыкла мусіць стаць конкурс на права бясплатнага палёту на станцыю. Для ўдзелу ў конкурсе плануецца адабраць дзесяць «простых амерыканцаў». Пасля таго, як яны пройдуць неабходныя тэсты ў Зорным гарадку, расійскія касмічныя медыкі адбяруць аднаго з іх – самага годнага для палёту ў космас. Увесь працэс адбору будзе здымацца на відэастужку.

Палёт будзе аплачвацца за кошт продажу праграмы ў ЗША і іншыя краіны. Кіраўніцтва *MirCorp* спадзяецца, што ўслед за М.Бернетам і іншыя прадзюсеры зразумеюць, які моцны забаўляльны патэнцыял мае расійская арбітальная станцыя.

60% капіталу *MirCorp*, якая была створаная напачатку года, належыць расійскай ракетна-касмічнай карпарацыі «Энергія». Астатнія 40% — тэлекамунікацыйнаму бізнесмену Чырынжаву Катурыі і венчурнай кампаніі *Gold & Appel Transfer S.A* амерыканскага прадпрымальніка Ўолта Андэрсена.

Цяпер *MirCorp* «раскручвае» яшчэ адзін праект: выкарыстанне «Міра» ў якасці «касмічнага гатэля». Першы патэнцыйны кліент ужо ёсць—гэта 59-гадовы амерыканец Дэніс Ціта, які не пашкадаваў выкласці за сваё касмічнае падарожжа 20 мільёнаў долараў. У канцы мінулага тыдня ён прыбыў у Зорны гарадок, каб скончыць праграму медычных тэстаў. 18 жніўня медыкі мусяць вынесці канчатковы вердыкт пра ягоную прыгоднасць для касмічных падарожжаў. ■

# Бойка паміж «брацкімі» рэспублікамі

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Новы ўзброены канфлікт распачаўся ў Цэнтральнай Азіі. У баявыя дзеянні аказаліся ўцягнутыя адразу тры былыя савецкія рэспублікі-суседкі – Кыргызстан, Таджыкістан і Узбекістан.**

Усё пачалося з таго, што ад 100 да 150 баевікоў з Ісламскага руху Узбекістана вырашылі прабівацца з Таджыкістана праз Кыргызстан ва Узбекістан. Пад ударам аказаліся вайскоўцы паўднёвай групоўкі кыргызскіх войскаў, якія дыслакаваліся ў Баткенскай вобласці рэспублікі. Пакуль што баі ідуць вакол Ферганскай даліны — на тэрыторыі як Кыргызстана, так і Узбекістана.

У сутычцы з узбекскімі баевікамі кыргызскія войскі згубілі ўжо каля 20 чалавек забітымі. Страты ісламістаў ацэньваюцца як блізкія да 30 чалавек.

У мінулую пятніцу прэзідэнт Кыргызстана Аскар Акаеў, занепакоены парушэннем межаў ягонай краіны і ўварваннем на тэрыторыю рэспублікі ўзброеных атрадаў баевікоў, мусіў сустрэцца з кіраўніком савета калектыўнай бяспекі краінаў СНД Валерыем Нікалаенкам. Той паабяцаў кыргызскаму прэзідэнту вайсковую падтрымку з боку іншых краінаў Садружнасці.

Эксперты называюць сітуацыю вакол Ферганскай даліны як крытычную. Баевікі Ісламскага руху Узбекістана, выкарыстоўваючы тэрыторыю Таджыкістана як плацдарм, лёгка пранікаюць і ва Узбекістан, і ў Кыргызстан. Незалежныя таджыкскія назіральнікі сцвярджаюць, што некаторыя часткі ўзброеных сілаў Таджыкістана, якія, па сутнасці, з'яўляюцца атрадамі былых палявых камандзіраў таджыкскай апазіцыі, дапамагаюць узбекскім ісламістам зброяй і боепрыпасамі, а таксама забяспечваюць для іх «празрыстасць» таджыкскай мяжы.

Узбекскія і кыргызскія ўзброеныя сілы цяпер прыкладаюць намаганні па выцісканні і рассяванні баевікоў з тэрыторыі Ферганскай даліны. Аднак кіраўніцтва Кыргызстана занепакоенае магчымасцю паўтарэння летняшняй сітуацыі, калі на тэрыторыю краіны ўварвалася больш за 1.000 баевікоў.

Магчыма, што канфлікт разгарыцца, і тады з тэрыторыі Таджыкістана і Афганістана ў раён Ферганскай даліны прыйдуць новыя атрады ісламістаў. У такім выпадку нават сумесных намаганняў кыргызскіх і ўзбекскіх войскаў можа не хапіць, каб супрацьстаяць агрэсіі. І тады ім давядзецца звяртацца да іншых партнёраў з СНД па дапамогу.

Самы галоўны гарант бяспекі ў Цэнтральнаазіяцкім рэгіёне – гэта Расія. Але наўрад ці яна зможа паслаць войскі ў Ферганскую даліну – і дорага, і рэсурсаў не хапае. Усе сілы ўжо пайшлі на Чачню. Таму Кыргызстан і Узбекістан могуць пайсці пабірацца па іншых краінах СНД – «Падайце тысячу-другую салдатаў». Папросяць і ў Беларусі. Цікава, як тады разгорнуцца падзеі – А.Лукашэнка неаднаразова абяцаў, што беларускія салдаты не будуць служыць нідзе апроч Бацькаўшчыны. З другога боку, подпіс Беларусі пад дамовай аб калектыўнай бяспецы ніхто яшчэ не адмяняў. Абавязваўся – дапамагай.

У апошнія гадзіны супрацоўнікі міністэрства абароны Кыргызстана сталі рапартаваць, што, маўляў, ліквідацыя баевікоў – на апошняй стадыі. Але так гэта ці не – наўрад ці хто пацвердзіць. ■

# Талібы забараняюць мыцца

**Міхась КАРПОВІЧ**

У Кабуле па распараджэнні адміністрацыі талібаў закрытыя ўсе грамадскія лазні, паколькі іслам забараняе мужчынам агаляцца ў грамадскіх месцах. Як паведамляе агенцтва BBC, зачыненыя трыццаць лазняў, у якіх адначасова мыліся да ста чалавек з тых дамоў, дзе няма водаправода.

Мужчыны і падлеткі, якія наведвалі лазні, ніколі не здымалі бялізны або абкручваліся ручнікамі. Тым не менш, талібская паліцыя маралі, якая абнародавала распараджэнне аб закрыцці лазняў, палічыла гэтыя захады недастатковымі.

Іслам ухваляе чыстату і рэгулярнае мыццё. Таму талібы паабяцалі ўзамен пабудаваць лазні з індывідуальнымі душавымі кабінкамі. Аднак гаспадары лазняў не вераць гэтым абяцанкам. Ва ўмовах эканамічнага хаосу і катастрафічнага недахопу сродкаў пабудаваць новыя лазні практычна нерэальна.

Дарэчы, жаночыя лазні былі закрытыя ісламскімі фундаменталістамі адразу пасля захопу ўлады ў Кабуле яшчэ ў 1996 годзе. Талібы таксама забараняюць жанчынам працаваць, а дзяўчынкам старэйшым за 8 гадоў – наведваць школу. ■

# Ліхтэнштэйн шукае жыхароў

**Ірына СТАРЦАВА**

У гэтай маленькай еўрапейскай дзяржаве ўпершыню ў гісторыі будзе праведзеная латарэя, пераможцы якой атрымаюць від на жыхарства там. Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 31 жніўня. Кандыдатам можа стаць грамадзянін любой краіны, што ўваходзіць у Еўрапейскі Саюз. Аднак асобам з крымінальным мінулым, сур'ёзна хворым і інвалідам адмаўляюць у праве жыць у Ліхтэнштэйне. Усяго ў латарэі разыгрываецца 22 віды на жыхарства. Насельніцтва Ліхтэнштэйна складае каля 32 тысяч чалавек. Прыкладна трэцяя часта з іх – замежнікі. ■

# Жанчыну спалілі з-за сумачкі

**Міхась КАРПОВІЧ**

Жудаснае злачынства адбылося ў мінулую суботу на Мінскай вуліцы ў Маскве. Як перадала радыёстанцыя «Эхо Москвы», група падлеткаў напала на 28-гадовую жанчыну, якая ішла па падземным пераходзе. Юныя злачынцы абліді яе нейкай лёгкаўзгаральнай вадкасцю і падпалілі, пасля чаго выхапілі сумачку і збеглі. Пацярпелая ў цяжкім стане шпіталізаваная, у яе апалена да 50% паверхні цела. Міліцыя цяпер шукае маладых бандытаў. ■

ДЗЯРЖЗАКАЗ

## Беларускае жыта на беларускі спірт

Леанід СІМАНАЎ

Выступаючы ў Віцебску на рэспубліканскай нарадзе па пытаннях разлікаў з сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі за збожжа, якое пастаўляецца імі ў кошт дзяржаўнага заказу, прэзідэнт канцэрна «Белдзяржхарчпрам» Іван Шакола заклікаў гаспадаркі здаваць жыта на спіртзаводы.

Збожжа на спірт канцэрну трэба нарыхтаваць 340 тысяч тон. Пакуль такога збожжа нарыхтавана толькі 40 тысяч тон. Прэзідэнт «Белдзяржхарчпрама» выказаў просьбу, каб дзяржзаказ па пастаўках збожжа на спірт абласцямі быў выкананы. «Мы нават пайшлі насустрач, — патлумачыў кіраўнік канцэрна. — Улічваючы, што харчовае жыта каштуе па закупачных цэнах 90 тысяч рублёў, а нам ідзе ў асноўным фуражнае па 70 тысяч, мы нават далі каманду нашым спіртзаводам: плаціць па 90 тысяч. Таму што нам больш выгадна ўзяць у сябе, чым купляць па 120 тысяч за межамі — потым гарэлка становіцца стратнай і трэба цэны павышаць». ■

БелаПАН




# Харчовая бяспека ў бутэльцы алею

Сяргей МАКСІМОВІЧ

**Адбываецца традыцыйная бітва за ўраджай. Камандуючы аб'язджае паасобныя франты, каб даць ЦУ і заадно прыпалохаць сваіх камандзіраў, а таксама апазіцыю і Захад. Што ж, калі не запрашаюць у замежныя краіны, дык хоць у родны калгас заехаць можна. Тым больш калгасаў шмат. Ездзіць ды ездзіць.**

Дальбог, БТ нас нагэтульки прызвычаіла, што мне будзе сумна жыць калі раптам у нас зменіцца галоўнакамандуючы, а бітва за ўраджай страціць сваё цяперашняе агітацыйна-прапагандысцкае значэнне. Апошняя паездка Аляксандра Лукашэнкі ў Лідскі раён таксама вельмі пацешыла. Па-першае, напярэдадні настойліва паведамлялася, што ён прыедзе ў Гродзенскі раён і, магчыма, наведае Гродна, дзе да сустрэчы пачаў маральна рыхтавацца мясакамбінат. Адна канкрэтнай мэты, мяркуючы па ўсім, у Лукашэнкі не было. Інакш бы ён не паехаў зусім у іншы раён — Лідскі, у якім, да ўсяго яшчэ, нядаўна пабываў міністр сельскай гаспадаркі Папоў, які праінструктаваў і наконт ураджаю, і наконт патрэбы выпускаць у Лідзе камбайн нямецкай маркі.

Атрымліваецца, што Лукашэнка прыехаў, каб узмацніць інструктаж. А каб зусім ужо не паўтарацца, яму прыдумалі яшчэ адну — пабочную мэту. Лукашэнка даў «цэнныя указанні» наконт патрэбы пасеваў рапсу, з якога робяць алей. Лукашэнка патлумачыў, што асабіста мусіць дбаць пра рапс, каб «выйсці з залежнасці па алеі ад іншых дзяржаваў. Я займаюся гэтым пытаннем, паколькі гэта датычыць нашай харчовай бяспекі. Вось што такое рапс. Гэта не шэраговая культура». Што і казаць, расплюшчыў вочы грамадзянам наконт таго, што такое рапс. Але, па аналогіі, збожжа — таксама важны чыннік харчовай бяспекі, кукуруза таксама, хмель і г.д., бо мы гэтаксама залежым праз іх ад іншых дзяржаваў. Так, цяжкая шапка манамаха! Дыктарка БТ патлумачыла гледачам, што «адказнасць за харчовую бяспеку, асноўны цяжар якой бярэ на сябе прэзідэнт, павінна раздзяляцца і ўрадам». Вось чаму, мяркую, прэм'ер Ярмошын мусіў адкласці свой адпачынак.

Пачалася сустрэча Лукашэнкі на лідскім полі з мясцовым начальствам, дарэчы, у стылі вякапомнай селектарнай тэлепланёркі 1996 года. Тады А.Лукашэнка даў прачуханца былому галаве Мінскай вобласці, бо, вяртаючыся з Турцыі самалётам у Мінск, прэзідэнт не ўбачыў у полі аніводнага камбайна! Цяпер жа ён замест цёплага павітання, на якое, мабыць, спадзяваўся А.Дубко, пачаў зусім інакш: у Мінскай вобласці бачыў у полі тры камбайны, а ў Гродзенскай — толькі два. І гэта ў дванаццаць гадзінаў дня! Затым у духу эсэсэсэраўскіх часоў Лукашэнка прысеў і пачаў вышукваць у пожні згубленыя каласкі. А.Дубко, які парадна выглядаў—у светлым строі і пад гальштукам, мусіў таксама нахіляцца і нешта засмучана тлумачыць. Лукашэнка пачаў палохаць. Мяркую, каб усе абавязкова пастаўкі збожжа здалі дзяржаве. «Шутить изволите? Головы снимем!»—гэта наконт «гамяльчан». Самога Дубко госць нарэшце пахваліў, паколькі Аляксандр Іосіфавіч, па словах Лукашэнкі: «Прыняў у гонар майго прылёту абавязацельства дадатковае. Ён абяцаў мільён тонаў хлеба сабраць. Але раз вы прыехалі, мільён сто, адчуваю, дам... Дзякуй яму». Вось такія цікавыя адбываюцца рэчы. Хлеб, праўда, як вядома, даюць камбайнеры, а не чыноўнікі.


Фота IREX/ProMedia

● Вёска будзе з хлебам ручной уборкі

Аляксандр Рыгоравіч увесь час паўтараў, што «железным будет спрос», «железные будут меры, жестокие». Так што іранізаваць з чыноўнікаў нявapта, лёс іх цяжкі і хлеб дастаецца няпроста. Затое, як паведаміла дыктарка БТ, «приезд прэзідэнта стаў сапраўдным святам» для аднаго механізатара, які не атрымліваў з красавіка заробак. Лукашэнка паабяцаў, што грошы калгасніку сплацяць. Ну, і наконт камбайна. Напярэдадні паведамлялася, што пры яго зборцы выкарыстоўваецца 30% дэталяў, зробленых на беларускіх прадпрыемствах. Калі Лукашэнка заехаў на завод, карэспандэнт паведаміў, што сваіх дэталяў — каля 40%. А сам Аляксандр Рыгоравіч сказаў, што — палова. Каму ж верыць шэраговаму тэлегледачу?!

Не абышлося і без палітыкі. Лукашэнка ўзгадаў пра безназоўных заходніх палітыкаў, якія «ходзяць у абдымкі» з «шарэцкімі і прочымі». Карадзіць з «бешеной радикальной оппозицией». Аляксандр Рыгоравіч выказаў недавер, не без іроніі пераходзячы раптам на беларускую мову, што апазіцыянераў будуць слухаць, калі іх дапусціць да тэлеэфіру: «Як ён будзе размаўляць на якойсьці трасянцы ці на роднай сакавітай мове пра тое, што народ не разумее». І падсумаваў: «Зачем ему давать эфир, если он говорит не то, о чем думают наши люди?» Успомніўшы пра Чыгіра і Статкевіча, Лукашэнка сказаў, што «мы нікога не чапаем, хто не перакульвае машыны і не падпальвае крамы». Дзякуючы БТ, просты глядач зразумеў, што вышэйназваныя асобы вызначыліся падпальваннем крамаў. Брава!

У канцы Аляксандр Рыгоравіч зрабіў выснову: «У нас общество поняло, чего хочет президент, что ему вообще надо». Як кажуць, «панятней і не бывае». ■

ЭКАНОМІКА

# Наш малый бизнес спасает Международная миссия

Вероника ЧЕРКАСОВА

**Несмотря на то, что условия существования малого и среднего бизнеса постоянно ужесточаются, миссия Международной финансовой корпорации начала в Беларуси осуществление нового проекта. Он называется «Развитие малого и среднего бизнеса в Беларуси» и финансируется Агентством США по международному развитию.**

Цель проекта — содействие развитию и укреплению малого и среднего бизнеса в Беларуси путем развития целевых информационно-обучающих программ. К числу задач нового проекта можно отнести работу по улучшению правовой среды для малого и среднего бизнеса, расширение доступа предпринимателей к правовой информации и консультациям путем создания «горячей линии», повышение экономической грамотности населения.

Как показал первый опыт работы «горячей линии», к числу основных проблем, сдерживающих развитие предпринимательства в Беларуси, можно отнести нестабильное законодательство. Новый Гражданский кодекс не смог изменить ситуацию, поскольку параллельно с ним не были приняты необходимые законы, кроме того, значительное число отношений по-прежнему регулируется подзаконными актами, в которые часто вносятся изменения. Достаточно сказать, что в постановления правительства о лицензировании изменения вносятся до тридцати раз за год.

Свою роль играет и то, что в стране продолжается практика придания обратной силы законодательным актам, а также наличие большого количества контролирующих органов, обладающих судебными полномочиями, такими, как право бесспорного списания средств, ареста имущества, его изъятия, приостановки деятельности, отобрания лицензий.

По мнению руководителя проекта Карла Даггенхарта, проект может помочь предпринимателям выжить в течение ближайших 10 - 12 месяцев, которые могут оказаться критическими для белорусского предпринимательства. Говоря о причинах неудач проводимых реформ, Даггенхарт заметил, что причина этого в недооценке роли малого и среднего бизнеса. «Такое впечатление, что в Беларуси существует мнение, — сказал он, — будто эту страну создали большие предприятия и неверие в то, что какой-то малый бизнес сможет оказать серьезное влияние на развитие страны. Между тем, сегодня для Беларуси развитие малого бизнеса — вопрос жизни и смерти. Без него не даст ожидаемого эффекта даже унификация обменных курсов».

По словам Даггенхарта, МФК вложила очень много усилий и



денег в проведение малой приватизации, и потому «хотелось бы предотвратить самое нежелательное развитие событий».

— Я считаю, — сказал Карл Даггенхарт, — что за эти 12 месяцев мы можем попытаться добиться конкретных результатов. Если наш план сработает, думаю, у нас будет аргумент для того, чтобы эти направления расширить. Если же, несмотря на наши усилия, ситуация в предпринимательстве после перерегистрации окажется драматичной, донор не станет дальше давать деньги под наши проекты. Очень трудно обосновать необходимость усилий, которые порождают так мало эффекта. ■

РАКУРС

# В стране появились коммунисты-призраки

## Мы пришли-таки к победе коммунистического труда. Как и обещал великий Ленин

Константин СКУРАТОВИЧ

**Напомним для тех, кто забыл классические дефиниции. Коммунистический труд — это труд без расчета на вознаграждение. Это труд, приносящий самоудовлетворения независимо от получаемого результата. Это труд, как блуд, труд о— мастурбация.**

Первыми к финишу, как всегда, пришли не пролетарии-гегемоны, а их союзники из числа колхозного крестьянства. По данным минстата, на конец июня свыше 340 тысячам работников колхозов (80% от общей численности работающих в коллективных хозяйствах) своевременно не выплачена полностью или частично заработная плата в среднем в размере 36,5 тысяч рублей на одного работника при средней заработной плате в колхозах в мае 29,2 тысяч рублей. Если так и дальше пойдет, то колхозникам придется самим платить за право вывозить органику на общественные угодья, доить коров и щупать кур-несушек.

И поделом! Надо уметь союзников выбирать. В жизни вообще надо уметь выбирать. Иначе самого выберут и хомут на шею наденут.

Впрочем, и пролетарии в выборе недалеко ушли. Только за июнь задолженность по зарплате выросла по сравнению с маем на 30% и достигла 22,7 млрд. рублей. Это самый высокий уровень за последние два года. Свыше 70% задолженности приходится на май, 24% — на апрель, свыше 5% — на март, около 1% — на февраль и январь текущего года. Получается, что каждый сотый из нас уже не просто коммунист, а коммунист-призрак, ведь только призрак полгода может жить и трудиться без питья и пищи. Вывели-таки новую породу — постсоветский человек.

Но и это еще не все. В умении творить чудеса никто не соперник статистике. Так, минстат утверждает, что реальная заработная плата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги, по сравнению с январем—маем 1999 г. увеличилась на 16,5%, в мае 2000 г. по сравнению с маем 1999 г. — на 4,4%, по сравнению с апрелем 2000 г. — на 9%. И это при том, что долги по зарплате в несколько раз превышали рост потребительских цен.

По-моему, эта уже не статистика, а какая-то игра в наперсток. ■

# Нацыянальны музей чакае ад нацыі грошай

Кірыла ПАЗЬНЯК

**Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі (з гарматай на ганку) лічыцца галоўнай музейнай установай краіны. Аднак умовы ягонага існавання такому статусу не адпавядаюць зусім, больш за тое – як кажуць у аддзеле музеяў і выставаў міністэрства культуры, гэта самы праблемны беларускі музей.**

Беларускі дзяржаўны музей пачаў сваю гісторыю ў 1920 годзе і месціўся тады ў доме па вул. Рэвалюцыйнай,2. Ужо да канца 20-ых гадоў у ягоных фондах налічвалася каля 30 тысяч адзінак, на год музей наведвалі звыш 15 тысяч чалавек. Росквіту спрыяў палітычны курс на беларусізацыю. Дарэчы, у 1927 - 1929 гадах дырэктарам музея быў Вацлаў Ластоўскі.

Аднак у наступным дзесяцігоддзі ўсё павярнулася ў бок заняпаду. У 1930-ым арыштоўваюць В.Ластоўскага, з таўром «нацдэмы» звальняюць іншых супрацоўнікаў, нават знішчаюцца «антысавецкія» экспанаты. Сам музей пераймяноўваюць сацыяльна-гістарычным. Самыя каштоўныя калекцыі былі распрададзеныя за мяжу – савецкай краіне патрэбныя былі грошы. Замест скасаваных этнаграфічнага, царкоўнага, мастацкага, нумізматычнага, археалагічнага і аддзела старажытнага Менска з'яўляюцца новыя: першабытнага дакласавага грамадства, феадалізму, капіталізму, сацыяльнага будаўніцтва.

У Другую сусветную вайну музейныя фонды зноў напаткалі страты. Гэта разам з агульнай паваеннай нястачай стала прычынай таго, што чарговым разам музей быў адноўлены, прычым як гісторыка-краязнаўчы, толькі аж у 1957 годзе. А Дзяржаўным музеем БССР ён стаў у 1964 годзе. Было нават выдзеленае новае памяшканне на тадышнім Ленінскім праспекце, але праз некалькі месяцаў у мінкульце чамусьці перадумалі і далі колішні будынак (па вул. Маркса,12) дзяржаўнага банка, а потым Музея Вялікай Айчыннай вайны. У выніку замест меркаваных 4.000 кв.м. Дзяржаўны музей БССР атрымаў толькі траціну. А прыродазнаўчую экспазіцыю давялося размяшчаць у сутарэннях.

У 1991 годзе Дзяржаўны музей БССР ператвораны ў Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. У статусе галоўнага музея краіны ён ужо амаль дзесяцігоддзе, але развязаць клубок закладзеных за савецкім часам праблемаў не ўдаецца. Збольшага таму, што дзяржава, таксама як у выпадку з мовай ці нацыянальным універсітэтам, не дужа і намагаецца гэта рабіць.

Хоць бы такі факт: калі нават па колішніх савецкіх музейных стандартах на квадратны метр фондасховішчаў павінна было знаходзіцца 10 адзінак захавання, а па еўрапейскіх і таго меней – 3, то ў музеі гісторыі і культуры на 1 кв.м. прыпадае ажно 400 экспанатаў. Прычым сваіх фондасховішчаў музей амаль не мае, і яны месцяцца на плошчах Музея Вялікай Айчыннай вайны, дзе не выконваецца неабходны для гэтага тэмпературна-вільготнасны рэжым. Справа ў тым, што ягоны будынак узведзены ў вельмі няўдалым, забалочаным месцы, да таго пры будаўніцтве Палаца Рэспублікі, кажуць, былі парушаныя слаі грунтовых водаў – і вільгаці ў музеі яшчэ паболела. Ёсць вялікая рэальная небяспека пашкодзіць экспанаты. У музеі вайны маюцца сховішчныя памяшканні, дзе, напрыклад, пад нагамі варушыцца падлога. Стурбаваўшыся такой сітуацыяй, у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі вырашылі нават ператварыць у сховішча некаторыя службовыя памяшканні. У прыватнасці, сюды мяркуецца перавезці кнігі і старадрукі.

Музею гісторыі і культуры, дзе з усіх музеяў самы вялікі асноўны фонд (261 тысяча адзінак захавання), увачавідкі элементарна не стае плошчаў. Агульныя плошчы складаюць 2.796 квадратных метраў, з іх экспазіцыйных – толькі 828, а выставачных – 582 кв.м. У экспазіцыях занята толькі 5% фонду, у той час, калі паводле еўрапейскіх стандартаў, адначасова мусіць паказвацца яго дзесятая частка.

Зараз дзейнічаюць толькі пяць экспазіцыяў: «Старажытная Беларусь» (ад першабытнасці да падзелаў Рэчы Паспалітай), часовая, выставачнага кшталту «Побыт гараджанаў», «Генезіс і семантыка сімвалаў», «Старадаўняя геральдыка Беларусі» і «Зброя і час». Разам з тым з 1995 года яны не абнаўляліся. У музеі кажуць, што экспазіцыяў можна і варта зрабіць удвая болей.

Міністэрства культуры абяцае, што ў хуткім часе трохі дадатковых плошчаў з'явіцца: у асобны будынак пераедзе Музей прыроды і экалогіі, які таксама месціцца на вул.Маркса,12. Існуе і яшчэ адзін варыянт па разгрузцы экспазіцыйных і сховішчных тэрыторыяў музея. Сталічным гарвыканкамам і мінкультам сумесна разглядаецца магчымасць стварэння ў Мінску музея горада. Размясціць яго мяркуецца ў так званым доме Шменкеля, што на плошчы Свабоды,4 (на будынку вісіць шыльда памяці Герою Савецкага Саюза Фрыцу Шменкелю, расстралянаму фашыстамі ў 1944 годзе). Гэта колішні гасціны двор 18-га стагоддзя, а з 1908 года — мінскае аддзяленне Азоўска-Данскога банка. Экспазіцыі музея Мінска амаль цалкам будуць створаныя з фондавых экспанатаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

Але такой палёгкі замала – як след гэтай праблемы не вырашыць. Нацыянальнаму музею гісторыі і культуры трэба новы будынак, а то і некалькі. Напачатку 90-х гадоў Савет міністраў нават выдаў пастанову, якой музею перадаваліся дамы 2, 4, 8, 10 на плошчы Свабоды. Пакуль ішлі праектныя распрацоўкі ўладкавання там музея, некалькі паверхаў гэтых будынкаў здавалася ў арэнду камерцыйным структурам, што разглядалася як зусім не лішняя крыніца даходаў для рэарганізацыі квартала пад музей. Але ў 1996 годзе мінкульт праект скасаваў. Таксама нічым скончыліся намаганні кіраўніцтва музея пару гадоў таму атрымаць будынак на плошчы Свабоды, 23 (у розныя часы тут знаходзіліся базыльянскі манастыр, з 1803 па 1844 гады – гімназія, суды, абласны савет прафсаюзаў, а пасля вайны другі паверх займаў Музей Вялікай Айчыннай вайны).

Сёння пра новыя адрасы музея не гаворыцца зусім. Музей гісторыі і культуры не мае ўласнага рэпрэзентацыйнага альбома, стары — датаваны яшчэ 80-мі гадамі. Ужо пяць гадоў супрацоўнікі музея не выязджаюць у этнаграфічныя экспедыцыі.

Асабліва згарнулася фінансаванне сёлета. Выдаткаванае музею праз мінкульт казначэйства проста не праплачвае. Намесніца дырэктара Любоў Мяртвішчава кажа, што там «яшчэ разумеюць, калі мы купляем тэлевізар ці кампутар, але не могуць уцяміць, чаму вялікія грошы адаюцца бабулькам за люстэркі? А таму што люстэркі гэтыя унікальныя, 18-19 стагоддзяў».

На думку сп. Мяртвішчавай, перш за ўсё павінна з'явіцца «стаўленне да музея як да Нацыянальнага». Але інтэграцыйны курс кіраўніцтва рэспублікі, непрыязнасць да ўсяго, што ўзмацняе нацыянальную свядомасць, адбіваецца (можа і наўмысна?) на існаванні музея на ўскрайку дзяржаўнага клопату. ■

Мінскъ Отдѣленіе Государственнаго Банка
Mińsk. Oddział Banku Państwa

Былы будынак Дзяржаўнага банка. У параўнанні з магчымымі «новымі» будынкамі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры (глядзі здымкі ўнізе) мае занадта малыя плошчы

Мінскъ Окружный Судъ

Мінск, былы Базыльянскі манастыр, на пачатку XX ст. тут быў акруговы суд, які прысудзіў 3 гады зняволення Якубу Коласу, пасля вайны другі паверх займаў музей. Найлепшое месца для Нацыянальнага музея гісторыі

Так званы «Дом Шменкеля», у XVIII-XIX ст. тут быў Гандлёвы двор, пасля аддзяленне Азоўскага банка. У гады вайны ў гэтым доме месцілося мінскае СС

Літаратура НАШАЙ СВАБОДЫ

## Рэліктавы беларус – паміж ладам і хаосам

Леанід ГАЛУБОВІЧ

**«Скажы, паэт, білі цябе ўжо ці яшчэ не? Я ніколі цябе не ўдару. І ведай: найбалючай б'юць словам. І асабліва невыносна, калі словам ударыць любімы чалавек. Добра вам, сабакам: вы не разумееце чалавечай мовы. О, калі б вы разумелі чалавечую мову – як бы вы пакутавалі!»**

Так метафарычна разважае пісьменнік пра нашыя рэаліі ў сваёй аповесці «На вуліцы Карла Маркса з Паэтам». Разважае па сутнасці сам з сабою і сам пра сябе...

Мікола Купрэеў. 63 гады. Родам з Рагачоўшчыны. Беспартыйны анархіст. Аўтар паэтычных зборнікаў «Непазбежнасць» (1967 г.) і «Правінцыйныя фантазіі» (1995 г.). Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А.Куляшова. Апошнім часам піша пераважна прозу. У часопісе «Крыніца» выдрукаваныя чатыры яго аўтабіяграфічныя аповесці.

М.Купрэеў заявіў пра сябе даволі рана. Яго неардынарная паэзія была адразу заўважаная як у Мінску, так і ў Маскве. Аднак перад самым прыёмам у Саюз пісьменнікаў паэт меў неасцярожнасць вульгарна выказацца на адрас тадышняй улады. Хрушчоўская «адліга» мінулася і яму не прабачылі. З таго часу і пачалася яго «адысея» па прасторах Палесся. Былі дзве сям'і, двое дзяцей, праца ў школах і райгазетах – але нішто не стрымлівала яго хады ў «незнаёмае». Пры такім раскладзе жыццё ў чалавека – усё стрэчнае і выпадковае: прыстанкі, рэчы, сябры і словы. І чым далей паглыбляўся ён у нетры прыроды і чалавечай адзіноты, тым іх меншала... І толькі калі застаўся сам-насам з сабою – ацверазеў і азірнуўся: няўжо напраўду нікога?! У ягоным выпадку нельга было вяртацца назад да людзей па сваіх старых слядах, трэба было «гаціць гаць», падаваць голас – і крок за крокам выбірацца на новае сухое месца, дзе можна было б перавесці дух, адкашляць сухотныя лёгкія, выпрастаць з'едзеныя соллю суклепы сходжаных ног...

І месца выпала не абы-якое – Папялёва, жылая мансарда былога панскага дома ў пяцістах метрах ад гулкай векавой Белавежскай пушчы...

Падзарадка збоку дала штуршок новай творчай энергіі. Праз дваццаць шэсць гадоў яго прынялі ў СБП, выйшла кніжка вершаў, якую вылучылі на атрыманне Дзяржпрэміі. Але хіба можна ўявіць жывога Купрэева – такім як ён ёсць – уганараваным, улаўрэачаным, гэткім сталічным багемным інтэлігентам?!

Таму ўсё ёсць як ёсць: Купрэеў жыве дзесьці паблізу Белавежскай пушчы, вандруе, тады-сяды піша вершы і прозу...

Вельмі шкада, што ніхто з літаратурных і выдавецкіх чыноўнікаў не паруліцца дапамагчы яму выдаць кніжку. Шкада – бо проза таленавітая і чытэльная. З яе праўдзівых старонак паўстаюць перад намі шэсцьдзесят гадоў беларускай гісторыі. Гісторыі жыцця аднаго чалавека, у характары і паводзінах якога адлюстроўваецца жыццё ўсяго перадваеннага пакалення. М.Купрэеў, у адрозненне ад некаторых, не спекулюе на палітычных і грамадскіх аспектах савецкага часу, каб на іх фоне паказаць свой адмысловы вобраз пакутніка. «Ён піша, як дыша» – і тым цікавы, а менавіта – самім сабою...

М.Купрэеў – і чалавек, і літаратар не канфліктны, але ўнурысты і ўпарты. Робіць сваю справу моўчкі і без аглядкі. Нікому не навязвае ні сябе самога, ні сваіх поглядаў, ні балячак. І ні на што не прэтэндуе, апроч як на сваё месца пад небам, аднак, і яго не прыватызуючы... Нечым напамінае ён мне нашага славутага мастака і археолага Язэпа Драздовіча. Як таго прыцягваў вонкавы космас чалавечай цывілізацыі, так Купрэева зацягвае ўнутраны космас самой чалавечай прыроды. Ні адзін з гэтых космасаў так да канца і не разгаданы за ўсю доўгую гісторыю чалавецтва. А чалавек так і застаецца таямніцаю для самога сябе, не маючы пэўнага ўяўлення, на якое зло і дабро ён патэнцыяльна здольны...

Во да чаго можна дапісацца, чытаючы Міколу Купрэева. Таму – трэба закругляцца: пачаў з цытаты, цытатай і скончу, з вашага дазволу:

«І я падумаў: каменю добра на зямлі, зямлі добра пад каменем, пяску добра ў расколіне каменя, рыбіне – у вадзе, зоркам – у нябеснай бездані... Паэту – у сырой зямлі». ■

АКЦЫІ

## Вечарына памяці Ларысы Геніюш

Ірына ТОЎСЦІК

Вечарыну, прысвечаную 90-ым угодкам з дня нараджэння слыннай беларускай паэткі Ларысы Геніюш, наладзіла 9 жніўня ў зале мінскага кінатэатра «Змена» Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Шмат распавядалася на вечарыне пра жыццёвы шлях паэтэсы, пра мужнасць і цярплівасць на допытах і на Поўначы, куды Ларыса Геніюш была сасланая ў 1948 годзе пасля арышту ў Празе. Аматары паэзіі Геніюш чыталі вершы з яе лепшага зборніка «Ад родных ніў», які, дарэчы, можна было там набыць.

Напрыканцы ўспамінаў гледачам прадаставілася магчымасць прагляду дакументальнага фільма «Вянок цярновы васількоў», зняты ў 1992 годзе па сцэнары Р.Барадуліна. У фільме Васіль Быкаў і Зянон Пазьняк распавядаюць пра яе жыццё.

Увогуле вечарына насіла лірычны характар. Было шмат людзей, якія прыйшлі аддаць даніну памяці Ларысы Геніюш. ■

**ВІТРАЖ**

## Швейцарский банк сотрудничал с СС

Один из крупнейших банков в мире, швейцарский банк *UBS* впервые признал, что использовал во времена Второй мировой войны труд узников нацистских концлагерей. Банк признал, что ему принадлежал цементный завод, для работы на котором офицеры СС привозили как минимум 400 заключенных расположенного неподалеку концлагеря Освенцим. Швейцарским компаниям, которые использовали принудительный труд рабочих во время Второй мировой войны, предложено в течение трех ближайших недель сообщить об этом, иначе они могут быть подвергнуты преследованию в судебном порядке, передает телерадиокомпания Би-Би-Си. ■

## Катрин Денев готовится сняться в фильме о д'Артаньяне

Знаменитая французская актриса Катрин Денев собирается сняться в роли королевы Анны в новом фильме о трех мушкетерах, который хочет снять американский режиссер Питер Хайамс, сообщает газета «Голливуд репортер». По ее сведениям, съемки начинаются уже в августе и пройдут во Франции, Бельгии и Люксембурге. Сюжет ленты, бюджет которой составит 50 миллионов долларов, — приключения знаменитого мушкетера, который пытается отомстить за убитых родителей. Судя по этому, ничего кроме имени главного героя из романа Александра Дюма в кинофильм не перейдет. ■

## Женщины захватывают интернет

В первом квартале 2000 года в США среди пользователей интернетом впервые стало больше женщин, чем мужчин. Об этом свидетельствуют результаты исследования, опубликованные газетой «Ю-Эс-Эй Тудей». По данным авторов, женщины составляют отныне 50,4% из 75,7 млн. американских «интернавтов». Американки пользуются этой системой связи прежде всего для общения, обучения и совершения покупок и уже превратились в отдельный сегмент рынка, со своими предпочтениями и привычками. Быстрее всего с января по март нынешнего года в США росло число пользователей всемирной компьютерной сети в возрасте от 12 до 17 лет — на 126 процентов! На втором месте — женщины старше 53 лет — на 110 процентов. ■

## Крупнейший живой организм на Земле

Американские ученые выяснили, что самым крупным из живых организмов на Земле является гриб, растущий в Голубых горах на востоке американского штата Орегон. Общая площадь, занимаемая этим грибом, составляет 890 га, что равняется площади примерно 1.220 футбольных полей. Гигантский гриб относится к роду *Armillaria ostoyae*, и его возраст может составлять около 2.400 лет. Впрочем, считают ученые, он может быть и в два-три раза старше. Доктор Кэтрин Паркс, представляющая Лесную службу Департамента сельского хозяйства США, рассказывает, что «этот гриб живет под землей и распространяется от дерева к дереву между их корней очень медленно, используя напоминающие шнурки для ботинок структуры». До этого самым большим известным науке организмом был гриб этого же вида, который живет на востоке штата Вашингтон и размер которого составляет 600 га.

ИНТЕРФАКС

## Киностудия призвала помочь ей поймать 5.000 тараканов

Постановщики художественного фильма, съемки которого проходят на Золотом побережье Австралии (штат Квинсленд), обратились к населению страны с необычной просьбой — поставить на киностудию живых тараканов. Режиссер фильма Крис Браун объяснил, что около 5.000 этих насекомых необходимы для того, чтобы снять главную сцену картины. Однако, поскольку фильм снимается в «не сезон» насекомых (в Австралии сейчас зима), достать тараканов в нужном количестве представляется довольно сложной задачей. Как сообщили представители киностудии, желающие сдать тараканов должны принести или прислать их на киностудию в прозрачных контейнерах. В каждом контейнере должно быть не менее 25 насекомых, каждое из которых должно быть более 3 см в длину, «любого цвета и пола». За каждого такого «актера» киностудия будет платить 10 центов. По словам представителей киностудии, сцена с тараканами будет сниматься в течение одного дня. После завершения съемки все насекомые будут сданы в зоомагазин. По мнению Криса Брауна, одним из преимуществ работы с насекомыми является то, что «у них нет менеджеров, они не темпераментны, не забывают своих ролей и не нуждаются в зарплате». ■

## Террорист освободит киноактера в обмен на фильм о себе

Известнейший в Индии преступник Вираппан требует, чтобы был снят фильм о его жизни в обмен на освобождение захваченного им актера Раджа Кумара, звезды индийского кино. Вираппан, крупнейший контрабандист сандалового дерева и слоновой кости, настаивает, чтобы картину снял режиссер Шехар Капур, получивший мировую известность. Радж Кумар, лауреат всех самых престижных кинематографических премий Индии, снявшийся более чем в двухстах фильмах, был похищен около двух недель назад. ■

# Победить СПИД могут миллиарды долларов

**Эпидемия СПИДа уже забрала 19 миллионов жизней и превратила 13 миллионов детей в сирот. 34 миллиона человек являются ВИЧ-инфицированными, все они обречены на раннюю смерть**



● Самое надежное средство борьбы со СПИДом — воспитание здоровых интересов и хорошего вкуса

**Джеффри САКС,**
**профессор экономики Гален Л. Стоун, директор центра Международного развития в университете Гарварда**

**Впервые идентифицированный в США в начале 1980-х годов СПИД сконцентрировался в самых бедных странах: 25 миллионов людей страдают от СПИДа в Африке, еще 6 миллионов – в Азии. В Южной Африке заражено более 20% взрослого населения.**

Бедные страны страдают от этой болезни в большей степени, чем богатые. Бедность ведет к худшему осознанию опасности заболевания, в результате люди практически не защищают себя с помощью презервативов. Бедность делает лечение слишком дорогим, поэтому бедные люди часто скрывают свою болезнь — нет смысла проводить тесты, если за ними не следует лечение. Бедность также заставляет мужей работать вдали от дома, создавая ситуацию, которая приводит к сексуальным отношениям с разными партнершами. Бедность также оставляет женщин беспомощными перед сексуальными нападениями мужчин, которые, возможно, являются зараженными.

Даже биология заболевания может быть различной. СПИД/ВИЧ быстрее распространяется в Африке в регионе за Сахарой, из-за распространенности других болезней, особенно передаваемых половым путем, что облегчает заражаемость ВИЧ. Генетические характеристики ВИЧ в Южной Африке также отличаются от ВИЧ в Европе и Америке. Некоторые ученые считают, что генетический подвид Африки является более благоприятным для распространения болезни.

Эпидемия СПИДа/ВИЧ является самой большой в современной истории. Поскольку она сконцентрирована в бедных странах, кажется, что мир решил ее игнорировать. Мировой Банк выделяет только несколько миллионов долларов, а не миллиарды, необходимые для борьбы с этой болезнью в Африке. Это как если бы Китай владел панацеей от чумы в 14-м веке, но решил бы не вмешиваться и лишь наблюдать, как Европу пожирает Черная Смерть.

Пришло время сменить тактику бездействия на стремительную войну с эпидемией, подкрепленную миллиардами долларов, выделенными для этой цели богатыми странами. Хотя общего плана действия еще не существует, его основные черты уже известны. Этот план акций должен состоять из трех компонентов: предотвращение, лечение и новое исследование и разработка медицинского подхода к контролированию заболевания. Предотвращение – это в основном задача бедных стран. Их лидеры должны выступать публично и регулярно против этого заболевания, помогая в обучении своего народа тому, как снизить риск заражения. Особые программы, приведшие к использованию презервативов проститутками, помогли борьбе с эпидемией в Таиланде; подобный подход необходим и в Африке.

Богатые страны должны предоставить срочное финансирование для медицинского лечения зараженных СПИДом/ВИЧ. Это включает: финансы, необходимые для остановки передачи СПИДа от матерей младенцам; фонды, необходимые для борьбы с инфекциями, которые обычно сопровождают СПИД, такими, как туберкулез; а при наличии хорошей программы, и фонды на антиретровирусную терапию. При существовании специально разработанной, низкостоящей комбинации лекарств, и с лекарствами, предоставленными бедным странам по самой низкой производственной цене, можно расширить проведение антиретровирусной терапии даже в самых бедных странах за приемлемую цену.

Третим шагом должна стать расширенная программа исследования и разработки нового и более эффективного подхода к контролированию заболевания. Самым многообещающим долговременным решением является вакцинация, предохраняющая от заболевания. Недавние научные открытия дают надежду на то, что подобная вакцина может быть разработана в течение десятилетия, если конечно и государственный, и частный сектор сумеет мобилизовать миллиарды долларов на продолжение исследований и разработок.

Полноценная борьба против СПИДа в Африке возможно потребует поддержку богатых стран в размере около 5 миллиардов в год для этой трехэтапной стратегии предотвращения, лечения и исследования. Возможно, что 4 миллиарда долларов потребуется для предотвращения и лечения, и 1 миллиард долларов – для исследований, направленных только на заболевание в Южной Африке (в дополнение к уже проходящему более общему исследованию СПИДа). 5 миллиардов долларов – это только 5 долларов на человека в год, поскольку в богатых странах, способных стать донорами, живет 1 миллиард человек.

С такой скромной ценой и такими высокими ставками трудно представить, что мир все еще не решается действовать. На встрече большой восьмерки в Японии лидеры богатых стран обязались приступить к действию. Они договорились встретиться в Японии в конце года, чтобы создать практический план работы. Во имя гуманности, давайте настоим на том, чтобы риторика перешла в реальную финансовую поддержку организованным усилиям, направленным на спасение миллионов жизней в самых бедных странах. ■

© Project Syndicate

**КНІГАРНЯ**

З пачатку кнігадрукавання, ужо пяць стагоддзяў, лепшым падарункам сярод культурных людзей была і застаецца кніга. Для сённяшняй збяднелай Беларусі – кніга не толькі культурны, а, па сутнасці, і самы танны падарунак, які можна з гонарам зрабіць сябрам, родным, дзецям.

Дастойныя для падарунка беларускія кнігі можна знайсці на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 13). У час летніх вандровак, сустрэчаў, выправы дзяцей за мяжу на выздараўленне варта мець для прэзентаў лепшую прыкмету нацыянальнай культуры, чым бутэлька гарэлкі.




Тэлефон кніжнай выставы – **284-85-11**.




· Аптовы продаж выдання «Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей». **239-15-32**.




Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 595 Нумар падпісаны ў друк 14/08/2000 (18.00) Наклад — 8.900